У НУМАРЫ



# Ніва

## БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК


ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 17 (739) ГОД XV БЕЛАСТОК 26 КРАСАВІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.


# III ПЛЕНУМ ГП БГКТ

Першым пунктам у парадку дня III пашыранага пленума было выступленне эстраднага калектыву ГП «Лявоніха». «Лявоніха» прайшла рэарганізацыю і пад мастацкім кіраўніцтвам Мечыслава Шыманскага падрыхтавала новую праграму. І вось з ёй выступіла перад удзельнікамі пленума. Пасля выступлення «Лявоніхі» адбылася абмяркоўка, падчас якой выступіла дзесяць асоб. Усе яны ў асноўным станоўча ацэньвалі праграму, звяртаючы адначасова ўвагу на некаторыя недахопы.

Далейшым і асноўным пунктам працы пленума быў даклад і дыскусія на тэму актуальных задач літаратурна-мастацкага аб'яднання «Белавежа», навуковага гуртка і супрацоўніцтва ГП з навуковымі ўстановамі. Даклад чытаў старшыня літаб'яднання доктар Аляксандр Баршчэўскі (даклад будзе надрукаваны). У дыскусіі выступіла 14 чалавек. Мікалай Урублеўскі — выкладчык інстытута рускай, украінскай і беларускай філалогіі ў Варшаве гаварыў аб тым, каб ГП уключылася ў арганізацыю экспедыцыі студэнтаў беларускай філалогіі, якія запісваюць беларускі фальклор Беласточчыны. У мінулым годзе фальклорная студэнцкая экспедыцыя запісала многа фальклорнага матэрыялу, вартасць якога велізарная. Такая экспедыцыя будзе арганізавана і ў бягучым годзе. Старшыня выдавецкай камісіі ГП, галоўны рэдактар «Нівы» Георгі Валкавыцкі прысвяціў сваё выступленне працы выдавецкай камісіі ГП, недастатковай прапагандзе грампласцінкі з песнямі Міхася Забэйды-Суміцкага і неабходнасці шукання добрых перакладчыкаў беларускіх твораў на польскую мову. Віктар Швед гаварыў у асноўным аб ролі аўтарскіх сустрэч, якія павінны пашырыцца на значна большую колькасць аўтараў, а Янка Цялушэцкі аб тым, што літаратурныя семінары, якія адбываюцца два разы ў год, у апошні час значна знізілі свой узровень.

Уладзімір Паўлючук звярнуў увагу на кадравыя цяжкасці ў ГП, на тое, што выдавецтва ў ГП амаль цалкам разлічана на актыў, на яго грамадскую працу ў гэтай галіне, а гэта не раз адбіваецца на якасці публікацый і афармленні.

Выступілі таксама ў дыскусіі Юры Туронак, Пётр Германюк, Уладзімір Паўлоўскі, Аляксандр Рафаловіч, Уладзімір Юзвюк. Усе яны падкрэслівалі і добрыя бакі і недахопы ў працы літаб'яднання, навуковага гуртка, выдавецкай дзейнасці, распаўсюджвання выданняў ГП і неабходнасці запісвання фальклору.

У навуковую камандзіроўку у Польшчу прыехаў кандыдат навук, супрацоўнік інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР Уладзімір Казберук. ГП запрасіла яго на пленум. Яго прамова аб тым, што ў БССР многія цікавяцца «Нівай» і працай БГКТ, з вялікім зацікаўленнем выслухалі ўсе прысутныя. Затым старшыня ГП БГКТ Міхась Хмялеўскі прадставіў да зацверджання праграму святкавання 15-ай гадавіны БГКТ, апрацаваную прэзідыумам, а сакратар ГП Янка Зенюк паінфармаваў аб праблемах, якімі займаўся прэзідыум у апошні час.

Ваяводскі камітэт ПАРП рэпрэзентаваў сакратар нацыянальнай камісіі Станіслаў Зялінскі, а аддзел унутраных спраў ВРН Мікалай Куц. Яны таксама выступілі з прамовамі. (мх)

Нашым чытачам шлем найлепшыя Велікодныя пажаданні!

„Ніва"



З беларускага ліцэя ў Бельску. Ірэна Кандрацюк — добры фізік.
Фота Цаф — Сянько

ЗАКЛІК ГП БГКТ

# ЭТНАГРАФІЧНЫ МУЗЕЙ — СУПОЛЬНАЯ СПРАВА

Беларускае грамадска-культурнае таварыства ад моманту яго ўзнікнення звяртала і звяртае ў сваёй дзейнасці асаблівую ўвагу на справы народнай культуры ў асяроддзі беларускай нацыянальнай меншасці. Нашыя дзеячы ад 1964 года збіраюць экспанаты матэрыяльнай і духоўнай культуры.

Дзякуючы старанням ГП БГКТ, у сакавіку 1966 года быў адкрыты Беларускі этнаграфічны музей у Белавежы. У сучасны момант у музеі знаходзіцца больш 300 экспанатаў, з якіх толькі 260 (з прычыны недахопу месца) экспануецца ў наступных аддзелах:

1. Апрацоўка зямлі;
2. Абсталяванне і апрацоўка расліннай і жывёльнай сыравіны;
3. Падрыхтоўка і захоўванне харчавых прадуктаў;
4. Вырабы калеснікоў і транспарт;
5. Вырабы ганчароў;
6. Вырабы кавалёў;
7. Пляцёнкі з саломы, вікліны і кары;
8. Прадметы, якія служылі для збірання ягад, грыбоў і г.д., а таксама прылады паляўнічых для лоўлі звяроў і птушак;
9. Рыбалоўства;
10. Апрацоўка валакна: пража і ткацтва.

З экспанатаў, якія знаходзяцца на складзе, можна было б стварыць яшчэ 7 аддзелаў:

1. Хатняе абсталяванне;
2. Пчалярства;
3. Апрацоўка драўніны і сталярства;
4. Арыгінальныя машыны, выкананыя вясковымі рамеснікамі, напрыклад, драўляны керат;
5. Народная разьба па дрэву;
6. Вырабы бандароў;
7. Розныя помнікі народнага мастацтва, як, напрыклад, іконы і т.д.

У сучасны момант ГП БГКТ пры дапамозе свайго актыву працягвае інтэнсіўна збіраць экспанаты. Экспанаты гэтыя знаходзяцца ў актывістаў з прычыны недахопу памяшкання ў цяперашнім будынку, які не прыстасаваны да патрэб музея.

У сувязі з цяжкімі ўмовамі музея (будынак драўляны, тры малыя выставачныя залы, неадпаведна аграваныя, няма гаспадарчага заплечча, памяшкання на архіў, бібліятэку і кансерватарскую майстэрню, неадпаведны склад для экспанатаў — яны знаходзяцца на гары музейнага будынка).

Такія ўмовы не даюць магчымасці адпаведна ахоўваць ад знішчэння каштоўныя помнікі беларускай народнай матэрыяльнай культуры.

Таму ГП БГКТ хоча пабудаваць для музея новы будынак.

У сувязі з гэтым Галоўнае праўленне Беларускага грамадска-культурнага таварыства звяртаецца да грамадскасці з просьбай дапамагчы грашыма для

Працяг на стар. 4

# БГКТ ХРОНІКА

■ 2 красавіка адбылося ўрачыстае адкрыццё клуба гарадскога аддзела БГКТ, які абсталяваны пры фінансавай дапамозе прадпрыемства «Рух». Адначасова паміж ваяводскім прадпрыемствам распаўсюджвання друку і кнігі «Рух» і ГП БГКТ быў падпісаны дагавор аб супрацоўніцтве. З боку прадпрыемства «Рух» падпісаў яго дырэктар Я. Ковэрка, а з боку БГКТ старшыня М. Хмялеўскі і сакратар Я. Зенюк.

■ 22 сакавіка на сходзе гуртка БГКТ у Кнышэвічах сакратар аддзела ў Саколцы Анатоль Севасцьянюк выступіў з дакладам на тэму «Ленін і справа Польшчы». Моладзь Кнышэвіч рыхтуецца да павятовых элімінацый мастацкага руху з беларускім рэпертуарам і пад кіраўніцтвам настаўніцы Анны Екацярынчык рыхтуе п'есу В. Дуніна-Марцінкевіча «Пінская шляхта». Школьны драмгурток падрыхтоўвае «Паўлінку» Янкі Купалы.

■ Старшыня ГП Міхась Хмялеўскі, кіраўнік культурна - асветнага аддзела ГП Уладзімір Паўлоўскі і журналіст «Нівы» Вера Валкавыцкая 7-га красавіка спаткаліся з харавым калектывам у Бельску і супольна абмеркавалі цяжкасці хора і спосабы іх ліквідацыі.

■ Сакратар беластоцкага праўлення аддзела БГКТ Янка Цялушэцкі 7-га красавіка прыняў удзел у вясковым сходзе ў вёсцы Скраблякі. Прачытаў там даклад аб Леніне і правёў «згадуй-згадулю» на гэтую ж тэму. На сходзе многія жыхары вёскі выказалі жаданне быць членамі БГКТ. Сакратар меў толькі 20 дэкларацый. Усе яны былі падпісаны, і стварыўся там гурток БГКТ. У склад праўлення ўвайшлі Грыша Лісавец — старшыня, Зося Налівайка — сакратар, Валя Налівайка — скарбнік. На заканчэнне быў паказаны фільм «Тры вясны Леніна».

■ 9-га красавіка з удзелам старшыні і сакратара ГП М. Хмялеўскага і Я. Зенюка адбылося пленарнае пасяджэнне гарадскога аддзела БГКТ у Беластоку, прысвечанае арганізацыйным справам. Пленум увёў у склад прэзідыума дзве асобы: К. Масальскага (паверылі яму функцыю намесніка старшыні аддзела), а таксама З. Стаськевіч, прыдзяляючы ёй абавязкі сакратара аддзела.

НА ДАРОГАХ ВАЙНЫ

# Сержант Ванда



У канцы адной з бочных вуліц Нараўкі, у драўляным доме застаю сержанта запасу **Ванду Юрэвіч.** Пані Ванда крыху заклапочана нечаканым госцем.

Пэўная насцярожанасць і афіцыйнасць пані Ванды была выклікана нармальнымі штодзённымі справамі. Як мне выясніла ў канцы нашай гутаркі, узяла мяне першапачаткова за «ужэндніка» з павета.

— Маю многа клопатаў, — гаварыла яна, — бо купілі мы драўляны дом, адрамантавалі за 50 тысяч пазыкі і нават ніякіх аблягчэнняў нельга дабіцца ў павеце. Думала, што нехта прыехаў з павета «бадаць» нашу справу.

Вайна кінула маладую дзяўчыну з-пад Вільна разам з сям'ёй далёка ў глыб Савецкага Саюза. Тут, як шмат іншых, упершыню пачула яна слова вайна. Тут яна даведалася, што на тэрыторыі Савецкага Саюза нараджаецца Войска Польскае.

— Добра памятаю, што некаторыя з нас атрымлівалі павесткі ў армію, — гаворыць В. Юрэвіч. — Мая малодшая сястра атрымала павестку, а мне не далі. Дык я падала заяўку да ваенных улад, каб мяне ўзялі як добраахвотніка, бо я хачу быць разам з сястрою. Паслухаліся, прынялі. А было гэта ў Сельцах над Акой. Я папала ў жаночы батальён імя Э. Плятэр. Свой ваенны шлях закончыла пад Берлінам у мясцовасці Вельтэн. Ах, што за радасць — канец вайны, гудкі сірэн, салюты, а сярод усяго гэтага тлумы палонных немцаў...

Кожны салдат мае тыя ці іншыя ўспаміны аб вайне. Мае іх і сержант Ванда Юрэвіч.

— Помню мой першы перыяд у войску. Зрабілі нам тры ночы заняткаў ваеннай вучобы. Нашае падраздзяленне «ўзялі» ў палон. Заняткі закончыліся, а пра мяне забылі. Іду мокрая і змерзшая і плачу. Сустракае мяне наш камандзір і пытае: «Чаго, дзіцятка, плачаш? Вашыя ўжо даўно кончылі заняткі і збіраюцца ў дарогу. Спяшай, а то застанешся». Цяжка цяпер нават уявіць, як я ўцешылася, што сустрэла камандзіра...

Жанчына, бадай, і ў салдацкім мундзіры застаецца жанчынай. Для мяне найгоршымі былі варты, асабліва ў лесе. Не раз стаіш з вінтоўкай каля арыштаваных і думаеш, што ж я, малая жанчына, зраблю тэтым здаровым мужчынам?

Аднак вайна пераменьвае і чуллівыя жаночыя душы. Жанчыны-салдаты становяцца толькі салдатамі, у якіх адзіная думка, што калі не пераможам, загінем. А перамагчы на вайне было немагчыма, не паносячы сваіх ахвяр, ахвяр пераможцаў.

— У Ківерцах немцы зрабілі на нас налёты. Адна з бамбардзіровак адбылася ў белы дзень. Загінула многа цывільных людзей і салдат. Вельмі многа параненых. Упершыню наслухалася, як людзі, пакалечаныя, але жывыя прасілі, каб іх дабіць. Калі немцы адстрэльвалі нас, і я была вельмі перапалохана, сябры пра мяне вельмі клапаціліся. Аднойчы, калі пасля варожага налёту я бегла, бледная, побач пачуўся голас: «Вандэчко, як добра, што ты жывая». Я азірнулася. Гэта быў мой найлепшы калега, якому адарвала руку і нагу...

За тое, што Ванда была «спрытнай» сувязной і добра выконвала давераныя абавязкі, атрымала капрала. У хуткім часе атрымала плутановага, але нават не паспела панашываць «бэлек», бо калі выканала заданне, ...«прыехаў сам генерал Чэканаў і сказаў, што назначае мяне сержантам».

**А. Карпюк**

# ◆ САМЫЯ ПАПУЛЯРНЫЯ ◆

Красавік — месяц святкавання 25-годдзя беластоцкага тэатра ім. Аляксандра Вянгеркі. Таксама на гэты ж месяц прыпадае Міжнародны дзень тэатра.

Беластоцкае таварыства культуры і рэдакцыя беластоцкага месячніка «Кантрасты» аб'явілі плебісцыт на найбольш папулярнага акцёра Беласточчыны за 1969 год.

У выніку галасавання самымі папулярнымі акцёрамі аказаліся:

Дзяржаўны тэатр ім. Ал. Вянгеркі (першыя дзесяць).

1. Генрык Длужынскі
2. Ванда Эльбінская
3. Барбара Камароўская
4. Барбара Бардская
5. Ежы Сецкі
6. Карына Васькевіч
7. Анджэй Кароляк
8. Станіслаў Сякерскі
9. Мечыслаў Банасік
10. Багуслаў Марлен

Дзяржаўны тэатр лялек «Сверщч» (першыя дзесяць).

1. Галена Ўлаткоўская
2. Кшыштаф Рау
3. Люцыян Тапалевіч
4. Марэк Катоўскі
5. Данута Вішаватая
6. Крыстына Матушэўская
7. Галіна Колпак
8. Лех Свіслацкі
9. Ян Чандэрна
10. Дэзідэрыуш Галецкі

(вл)

фота Цаф — Сянько



Ванда Эльбінская



Генрык Длужынскі



Галена Улаткоўская



**Кшыштаф Рау — ён жа дырэктар тэатра лялек, ён жа рэжысіраваў новую праграму беларускай эстрады «Лявоніха», з якой яна цяпер выступае.**




## КАРЫСНАЯ КНІГА

«З клопатам пра песні народа»[1]) — так называецца новая кніжка Ніла Гілевіча, паэта і выкладчыка літаратуры ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. У ёй аўтар знаёміць чытача з гісторыяй збірання і даследвання беларускай народнай песні. Зацікаўленне побытам беларускага селяніна, яго пагаворкамі, песнямі і казкамі з'явілася ў канцы XVIII стагоддзя. Яно было абумоўлена не толькі пранікненнем рамантычных ідэй, але і гістарычным лёсам народа. Шматвяковая залежнасць ад шляхецкай Польшчы прывяла да таго, што многія вучоныя этнографы і моваведы лічылі Беларусь польскай правінцыяй, а беларускую мову дыялектам польскай мовы. Далучэнне зямель да Расіі ў выніку падзелаў Польшчы звярнула ўвагу на тое, што па духу і па мове беларускі селянін бліжэй да рускага. Выкарыстоўваючы гэта, царскі ўрад імкнуўся даказаць, што Беларусь з'яўляецца часткай Расіі. З гэтай мэтай было ўтворана рад таварыстваў, якія займаліся апісаннем беларускіх зямель.

Збіранне беларускага фальклору прыхільнікамі рускай і польскай арыентацыі дало аднолькавыя вынікі. Сабраныя імі песні і апісанні звычаяў, гаварылі аб тым, што беларусы ўяўляюць сабой самабытную нацыю, што беларуская мова гэта не дыялект, а такая ж мова як руская ці польская.

Зацікаўленне творчасцю народа спрыяла абуджэнню нацыянальнай свядомасці самых беларусаў і фарміраванню беларускай інтэлігенцыі. У канцы XIX ст. збіраннем і вывучаннем беларускай песні займаліся ўжо і самі беларусы (Е. Раманаў, П. Шэйн, Е. Карскі).

Разглядаючы зборнікі беларускай народнай песні, якія выйшлі да Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі, Гілевіч падкрэслівае заслугі, якія на гэтай ніве мелі польскія збіральнікі (З. Далэнга

Працяг на стар. 4

# Канапелькі

**Дарагая рэдакцыя «Ніва»! Пасылаю вам дзве песні «Канапелькі». Я не ведаю, як далёка гэты звычай быў распаўсюджаны, у ваколіцы Гарадка спявалі «канапелькі» на другую ноч Вялікадня. У вёсцы Валілы жывуць сябры, з якімі я сам хадзіў «валокаць». Адным спявалі «Wesoły dzień dziś nam nastał», другім «Христос воскрес», а дзе былі дзяўчаты — спявалі «канапелькі».**

**Язэп Грыцук**

**I**

Цякла рэчка край мельнічка,
гэй, віно!
Цякла рэчка край мельнічка,
віно!
А другая край дуная,
гэй, віно!
А другая край дуная,
віно!
Там дзяўчына хусты мыла,
гэй, віно!
Там дзяўчына хусты мыла,
віно!
Хусты мыла, бель бяліла,
гэй, віно!
Хусты мыла, бель бяліла,
віно!
Залаты персценьураніла,
гэй, віно!
Залаты персцень ураніла,
віно!
Шчука — рыба ўхапіла,
гэй, віно!
Шчука — рыба ўхапіла,
віно!
Пашла рыба озярэчкам,
гэй, віно!
Пашла рыба озярэчкам,
віно!
А я млады беражэчкам,
гэй, віно!
А я млады беражэчкам,
віно!
Напаткала тры рыбаццы,
гэй, віно!
Напаткала тры рыбаццы,
віно!
Тры рыбаццы ўсе тры братцы,
гэй, віно!
Тры рыбаццы ўсе тры братцы,
віно!
Ой, мае ж вы рыбачанькі,
гэй, віно!
Ой, мае ж вы рыбачанькі,
віно!
Вы закіньце шоўкаў невад,
гэй, віно!
Вы закіньце шоўкаў невад,
віно!
Шчуку-рыбу вы спаймайце,
гэй, віно!
Шчуку-рыбу вы спаймайце,
віно!
Златы персцень ў ёй дастаньце,
гэй, віно!
Златы персцень ў ёй дастаньце,
віно!
А што, панна, за дар дасі?
гэй, віно!
А што, панна, за дар дасі?
віно!
Аднаму дам з руты венец,
гэй, віно!
Аднаму дам з руты венец,
віно!
А другому златы персцянь,
гэй, віно!
А другому златы персцянь,
віно!
А трэцяму сама млода,
гэй, віно!
А трэцяму сама млода,
віно!
Сама млода, як ягода,
гэй, віно!
Сама млода, як ягода,
віно!

**II**

Ішлі, беглі валакаднічкі,
гэй, віно!
Ішлі, беглі валакаднічкі,
віно!
Пыталіся нова двора,
гэй, віно!
Пыталіся нова двора,
віно!
А ў тым дварэ тын тыновы,
гэй, віно!
А ў тым дварэ тын тыновы,
віно!
Тын тыновы, сад вішнёвы,
гэй, віно!
Тын тыновы, сад вішнёвы,
віно!
Вароцячка букавыя,
гэй, віно!
Вароцячка букавыя,
віно!
А замочкі ўнутраныя,
гэй, віно!
А замочкі ўнутраныя,
віно!
А ключыкі залатыя,
гэй, віно!
А ключыкі залатыя,
віно!
А ключарка красна панна,
гэй, віно!
А ключарка красна панна,
віно!
Вароцячка адмыкала,
гэй, віно!
Вароцячка адмыкала,
віно!
Валакаднікаў ўпусціла,
гэй, віно!
Валакаднікаў ўпусціла,
віно!
Упускаючы прыказала,
гэй, віно!
Упускаючы прыказала,
віно!
Сціха, сціха валакаднічкі,
гэй, віно!
Сціха, сціха валакаднічкі,
віно!
Бо мой бацька надта ж грозны,
гэй, віно!
Бо мой бацька надта ж грозны,
віно!
Мяне младу прыгражае,
гэй, віно!
Мяне младу прыгражае,
віно!
Каб з хлопцамі не гуляла,
гэй, віно!
Каб з хлопцамі не гуляла,
віно!
Віна, піва не ўжывала,
гэй, віно!
Віна, піва не ўжывала,
віно!
Што ж нам, панна, за дар дасі?
гэй, віно!
Што ж нам, панна, за дар дасі?
віно!
Дваццаць яек на талеры,
гэй, віно!
Дваццаць яек на талеры,
віно!
Каўбасою акружоно,
гэй, віно!
Каўбасою акружоно,
віно!
Белым сэрам завяршоно,
гэй, віно!
Белым сэрам завяршоно,
віно!

**ЗНЕШНЯЕ ЎПРЫГОЖВАННЕ ХАТ ПАЎДНЁВАГА ЎСХОДУ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ**

# ВУГАЛ (2)



Вугал хаты Сцяпана Бандарука з Краснай Вёскі Бельскага павета (1925).

Вугал пошты ў Нараўцы, пабудаванай у 1926 г. мясцовым майстрам.



Вугал хаты Мікалая Міхалюка з Рыбалаў Бельскага павета (1928).

Багацця ўкладкі ўзораў, арнаментаў, кампазіцыі вугла перадаць немагчыма. Не сустрэнеш ніводнага паўтарэння, нават у разьбе аднаго і таго ж цеслі. Некаторыя з цесляў паслугоўваюцца, праўда, загадзя падрыхтаванымі ўзорамі (модламі) для выканання паасобных больш складаных элементаў кампазіцыі вугла, але злучаюць іх кожны раз па-іншаму.

Часта шалёўка дзеліцца рамкамі на тры, чатыры і больш сегментаў, а затым кожны з іх упрыгожваецца іншай фігурай. Амаль заўсёды захоўваецца сіметрыя і нейкі стыль. Напрыклад, укладка стажкоў рознай даўжыні выпаўніла ўсе пяць сегментаў шалёўкі вугла хаты Сцяпана Бандарчука з Краснай Вёскі Бельскага павета (глядзі фотаздымак). Аналагічная з'ява выступае ў мастацкім упрыгожанні вуглоў Івана Ірыдухі з вёскі Астрове Дуброўскага пав. (1964 г.) з той розніцай, што тут выступаюць толькі ромбікі, а ў Язэпа Федарчука з вёскі Снежкі (1968 г.) — кроквачкі і ромбікі. Прыкладам іншоў прыгожага спалучэння розных геаметрычных фігур могуць служыць вуглы хаты Аляксея Міхалюка з вёскі Канюкі Бельскага пав. (1928 г.)

Выключна геаметрычныя фігуры выступаюць на каля 30% вуглоў мясцовых хат. Больш распаўсюджаныя іх тыпы прадстаўляюць прыведзеныя фотаздымкі вуглоў хат Б. Сідорскага, пошты ў Нараўцы і хаты І. Міхальчука.

Амаль палову ўпрыгожанняў шалёвак вуглоў складаюць спалучэнні геаметрычных фігур з рознымі кампазіцыямі. Пры гэтым розныя ромбікі, стажкі і г.д. памяшчаюцца ў ніжняй частцы шалёўкі над дажджавіком. Пацвярджэнне гэтага знойдзем у чатырох чарговых здымках па-мастацку выкананых вуглоў (М. Галубоўскага, А. Жукоўскага, М. Міхалюка і П. Астапчука).

Урэшце даволі вялікая колькасць вуглоў упрыгожана сіметрычна размешчанымі кампазіцыямі са звёздачак, зубчыкаў, завітушак. Усе яны выкананы дасканала, па-майстэрску, не хочацца верыць, быццам ужывалася да гэтага толькі пілачка і свярдзёлак.

**Ул. Юзвюк**
фота аўтара



Вугал хаты Барыса Сідорскага з Снежак Бельскага павета (1948).

Вугал хаты І. Міхальчука з Паўлаў Бельскага павета (1964).



Вугал хаты Міхася Галубоўскага з Паўлаў Бельскага павета (1936).

Вугал хаты Аляксандра Жукоўскага з Пілікаў Бельскага павета (1930).

Вугал хаты Паўла Астапчука з Рыбалаў Бельскага павета (1930).

# МОЖНА ЯШЧЭ КУПІЦЬ ВЫДАННІ ГП БГКТ

Зацікаўленых беларускімі выданнямі ў Польшчы інфармуем, што на складзе ГП БГКТ ёсць яшчэ шмат кніжак, выданых нашым таварыствам, якія можна набыць за паштовым залічэннем, або асабіста. Падаем спісак гэтых кніжак з іх цаной (чытачы з БССР, якія хацелі б атрымаць гэтыя выданні, павінны звярнуцца ў ГП БГКТ, дасылаючы адначасова новыя беларускія кніжкі на адпаведную суму: пералічваць злотыя на рублі, як 10:1 (у дзесяць раз менш).

1. «Беларускі каляндар», 1961 г. 12 зл.
2. «Беларускі каляндар» 1962 г. 6 зл.
3. «Беларускі каляндар» 1963 г. 6 зл.
4. «Беларускі каляндар» 1964 г. 6 зл.
5. «Беларускі каляндар» 1965 г. 6 зл.
6. «Беларускі каляндар» 1966 г. 7 зл.
7. «Беларускі каляндар» 1967 г. 7 зл.
8. «Беларускі каляндар» 1968 г. 7 зл.
9. «Беларускі каляндар» 1969 г. 10 зл.
10. «Беларускі каляндар» 1970 г. 10 зл.
11. «Зборнік сцэнічных твораў» (1957) 3 зл.
12. «Рунь» (паэтычны альманах) 5 зл.
13. С. Вагурка «Дзядзька Лявонь» (гумарэскі) 10 зл.
14. «Белавежа» № 1 (літаратурны альманах) 10 зл.
15. «Мой родны кут» (альманах) 6 зл.
16. «Навуковы зборнік» 10 зл.
17. А. Барскі «Жнівень слоў» 8 зл.
18. В. Швед «Жыццёвыя сцежкі» 6 зл.
19. С. Яновіч «Загоны» 10 зл.
20. Я. Чыквін «Іду» 8 зл.
21. Я. Чыквін «Святая студня» 6 зл.
22. М. Забэйда «Беларускія народныя песні» (доўгаграючая пласцінка) 50 зл.

Адрас ГП БГКТ: ZG BTSK, Białystok, ul. Warszawska 11.

## СЦЯГ ВАЕННЫМ ІНВАЛІДАМ

9 мая г.г. будзем урачыста адзначаць 25-ю гадавіну перамогі над нямецкім фашызмам.

Стваральнікамі гэтай перамогі сталіся нашыя бацькі, маткі, браты і сёстры, якія ў кашмарныя ночы акупацыі хапілі за зброю, каб ваяваць з захопнікам за свабодны супольны дом — Народную Польшчу.

У барацьбе з зверскімі фашыстамі людзі складалі свой найбольшы скарб — сваю кроў, а вельмі часта і жыццё. Многія з іх у барацьбе з ворагам засталіся жывымі, але назаўсёды засталіся калекамі ў выніку нанесеных ім ран. Людзі гэтыя — гэта ваенныя інваліды. У Народнай Польшчы згуртоўваюцца яны ў Саюзе інвалідаў ПНР.

Каб даць доказ удзячнасці тым, якія не шкадавалі сваіх сіл у барацьбе за свабоду, за нацыянальны і грамадскі быт, былым салдатам, а сёння членам Саюза ваенных інвалідаў ПНР у **Гайнаўскім павеце**, грамадскасць гэтага ж павета пастанавіла ахвяраваць ім сцяг.

Грамадскасць Гайнаўшчыны з вялікім адабрэннем прыняла зварот камітэта ахвяравання сцягу. Многія прадпрыемствы і ўстановы, маладзёжныя арганізацыі, а таксама і індывідуальныя ахвярадаўцы ўплацілі і далей уплочваюць грашовыя складчыны.

Сцяг для гайнаўскага аддзела Саюза ваенных інвалідаў ПНР, які станецца сімвалам захавання ў памяці тых, хто панёс найбольшыя ахвяры, будзе ўручаны ў час святкавання Дня перамогі на гайнаўскай зямлі. **(ак)**

час вайны. На фронце пазнаёміўся з сінявокім фельчарам, які называўся Лідай і якога потым, ужо як жонку сваю, прывёз на родную Бельшчыну. Пані Ліда Пасынюк успамінае сваю сустрэчу з Польшчай: «Нічога не разумела, усё мне злівалася ў адно».

Сінявокая стройная Ліда Пасынюк цяпер кіраўніком у кнігарні, якая змяшчаецца на высокім партэры, у спулдзельчым будынку. Наверсе кватэры бяльчан. Месца кнігарня мае прыгожае, сонечнае. Чыста тут і свабодна.

Ліда Пасынюк следам мужа, уросшы ў новую сваю айчыну, пайшла да працы з кніжкай. І так ужо 12 год. Яе новая кнігарня — гонар усяго горада і яго ўлад. Усе стараліся за гэтую кнігарню, і цяпер сам старшыня Прэзідыума павятовай рады нарадовай у Бельску — пастаянны тут госць і не выходзіць з пустымі рукамі. Гэта сучасная кнігарня і ў сэнсе продажы. Вядзе поўную бібліяграфію кніжак, знаходзіцца ў пастаянным кантакце з іншымі кнігарнямі і выдавецтвамі. «Калі ў нас няма кніжкі, нам трэба ведаць, дзе яе можна атрымаць» — кажа пані Ліда.

Звоніць тэлефон. Хтосьці хоча Міцкевіча. Вельмі ветлівы адказ «У нас ужо няма, але пастараемся дастаць для вас. Скажыце свой адрас, пазвонім або напішам».

Так прадаецца цяпер кніжка — найцаннейшы людскі скарб. Прыемна гаварыць пра прыемнае, але калі трэба... трэба і крытычна. Пані Ліда заўважае, што выдавецкія каталогі аднолькава хваляць кожную кніжку і то так, што ўжо і лепшай не можа быць. Цяжка па такім каталогу выбіраць новую кнігу для ўласнай бібліятэкі.

Гаворачы пра кніжкі на Бельшчыне, не можна прамінуць таксама справы беларускіх кніжак. З імі і тут клопатаў не бракуе. Кіраўнік Анатоль Пасынюк з сваёй невычэрпнай энергіяй і ініцыятывай пабываў у савецкім пасольстве і размаўляў пра беларускую кніжку. На жаль, справа не вырашана. Калі і атрымлівае кніжкі, то толькі як называе «ізлішкі». Сярод беларускай літаратуры замнога паэзіі, а замала цікавай кніжнай прозы. «Усе мы тут калісь пыталі адзін другога, чаму людзі не купляюць беларускіх кніжак. Асабліва Аддзел асветы ставіў такое пытанне адносна беларускіх школ. Але па-сутнасці невядома было, што гэтай літаратурай для школ з'яўляецца. Мы прыселі і разам зрабілі спісак такой літаратуры. Гэта добра. Я спісак маю. Але я гэты спісак магу рэалізаваць у вельмі малым працэнце. Хоць як хацелася б, не выходзіць...»

Ад'язджаем, пакідаем заліты сонцам стары Бельск. Слаўная кнігарская сям'я Пасынюкоў запрашае яшчэ прыехаць, бо ёсць пра што пагаварыць.

**Вера Леўчук**
фота Цаф — Сянько і архіў

# КЛАСАКАБІНЕТЫ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

Заклік ваяводскай канферэнцыі кіраўнікоў школ у справе арганізавання кабінетаў, класакабінетаў і куточкаў беларускай мовы дае першыя вынікі. Знайшло гэта свой водгук у тэматыцы метадычнай канферэнцыі настаўнікаў беларускай мовы ў Гайнаўскім павеце.

Канферэнцыя, якая адбылася ў пачатку красавіка ў Дубінах, дыскутавала над справай, як арганізаваць класакабінет беларускай мовы. Кіраўнік секцыі беларускай мовы Вольга Гарастовіч пазнаёміла настаўнікаў з формамі арганізацыі класакабінетаў у розных памяшкальных умовах. Найбольш наглядным было тое, што канферэнцыя адбывалася ў памяшканні, якое з'яўляецца класакабінетам беларускай мовы.

Што павінна знаходзіцца ў такім класакамбінаце? У Дубінах, напрыклад, ёсць арфаграфічныя табліцы да вывучэння беларускай мовы, выстаўка беларускай літаратуры і гістарычна-літаратурных нарысаў, куточак, дзе вывешваецца актуальны нумар «Нівы», шафа з выстаўкай беларускага арнаменту і знаходак з ваколіцы, малая падручная бібліятэчка настаўніка беларускай мовы, партрэты беларускіх пісьменнікаў, газеткі і фотагазеткі на беларускай мове аб жыцці школы, краіны і БССР.

Як паінфармавала прысутных В. Гарастовіч, гэта толькі пачатак. Паводле яе прапаноў кожны класакабінет павінен мець пяць тэматычных частак: навуковую, гістарычна-літаратурную апрацоўкі, матэрыялы слоўнікавага характару, метадычную частку, вучнёўскія матэрыялы і матэрыялы арганізацыйнага характару.

Зразумела, не для кожнай з вышэй паказаных частак класакабінета можна знайсці ў нас патрэбныя матэрыялы, але не перашкаджае гэта рабіць тое, што можна самім зрабіць.

В. Гарастовіч паінфармавала нам, што настаўнікі з Трасцянкі і з Навасадаў прыняліся сур'ёзна за арганізацыю класакабінетаў ці куточкаў беларускай мовы. Многія настаўнікі самі выконваюць навуковыя дапаможнікі да вывучэння гэтага прадмета, выкарыстоўваючы вопыт іншых настаўнікаў. (ак)

## КУТОК ГАСПАДЫНІ
## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

Ранняю вясною, калі мала яшчэ зеляніны, цяжкавата ўразмаіціць нашае меню. Выкарыстоўваючы аднак тую гародніну, што агароднікі прызапасілі на зіму, можна таксама зрабіць смачныя і спажыўныя патравы.

У мінулым нумары мы абяцалі, напрыклад, напісаць, як можна зрабіць самастойныя

### СМАЧНЫЯ ПАТРАВЫ З СЕЛЕРАЎ

з якіх у сучасны момант робяць не толькі салаты, але і розныя іншыя прысмакі.

**Суп-пюрэ з селераў.** 1 вялікі селер вышараваць, абабраць і сцерці на бурачанай тарцы. Тушыць яго на патэльні разам з нашаткаванай цыбулінай, лыжачкай масла і шклянкай булёну. Калі селер будзе мяккі, працерці праз сітка. Дадаць засмажку з мукі, масла і булёну. Атрыманую масу спалучыць з булёнам, паварыць яшчэ мінут 10, заправіць соллю, перцам і сырымі жаўткамі. Падаваць з грэнкамі з пшанічнай булкі. Можна пасыпаць суп зялянінай.

**Тушаныя селеры.** 2 абабраныя селеры варым у вадзе, дадаючы крышачку воцату. Звараныя селеры рэжам на не надта тонкія скрылёчкі. 10 дэкаў (100 г) пячарак (шампіньёнаў), 1 цыбуліну і зялёную пятрушку нарэзваем дробна і тушым у тлушчы. Утушыўшы, дадаем селеры, даліваем некалькі лыжак вывару з селераў, солім і тушым пад крышкай яшчэ мінут 5. Гэтую патраву можна есці з бульбай, макаронам, альбо з смажаным мясам.

**Аладкі бульбяна-селеравыя.** Паўтара кілаграма абабранай бульбы, 1 вялікі селер і 1 вялікую цыбуліну сціраем на бульбяной тарцы. Дадаем 4 лыжкі мукі, 2 сырыя яечкі, соль і перац па смаку. Цеста на аладкі павінна быць даволі густое, таму можна нават дадаць больш мукі. Усё добра размяшаць. Смажыць аладкі ў гарачым тлушчы. Падаваць з вострым салатам.

**Фаршыраваныя селеры.** 2 вялікія селеры абабраць, разрэзаць напалову, улажыць у каструльку з пасоленай вадой і варыць 20 мінут. Выняць іх з вывару, абсушыць і выразаць сярэдзіну, каб з селераў атрымаліся місачкі. Фарш робім з 0,25 кг змеленага мяса, або змеленай каўбасы, плюс 1 намочанай булачкі, зялёнай пятрушкі, солі і перцу. Напаўняем фаршам селеравыя місачкі. У каструлі, а яшчэ лепш у брытфане, разаграваем паўшклянкі алівы, дадаем 2 нашаткаваныя цыбуліны і крыху тушым яе, а пасля ўкладаем на ёй фаршыраваныя селеры, дадаем 2 лыжкі памідорнай пасты, паўшклянкі белага сухога віна і паўшклянкі вады. Свабоднае месца ў каструлі запаўняем выразанай сярэдзінай селераў, прыкрываем і тушым на слабым агні каля гадзіны. Да такіх селераў вельмі раю падаць вараны рыс.

**Гаспадыня**




### НАСТАЎНІКІ Ў НЕБЯСПЕЦЫ

У Злучаных Штатах Паўночнай Амерыкі шырацца забастоўкі настаўнікаў. Адна з галоўных прычын гэтых забастовак — нарастанне хуліганства ды бандытызму ў школах. Жыццё настаўніка знаходзіцца пад непасрэднай пагрозай забойства. Дэмаралізацыя моладзі перавышае ўсе дагэтуль вядомыя з'явы ў гісторыі Амерыкі.

Амерыканскія сярэднія, а нават пачатковыя школы ў многіх гарадах сталі месцам масавага гандлю наркотыкамі, гнёздамі наркаманаў. У рапарце федэратыўнага школьнага камісара ЗША гаворыцца аб тым, што «цяжкія наркотыкі паявіліся ў большасці сярэдніх школ у цэнтральных гарадах Амерыкі».

Асабліва папулярны наркотык гераін.

Той жа камісар піша:

«Людзі наогул не хочуць у тое верыць. Але возьмем для прыкладу Н'ютон... спакойнае і заможнае мястэчка. Тут у сярэдняй школе дзяўчынкі і хлопцы рэгулярна прымаюць гераін у туалетах, і ніхто аб гэтым не ведае ў школе».

У самым Нью-Йорку ў мінулым годзе, паміж месяцамі чэрвенем і кастрычнікам, 224 маладых людзей памерла ад празмернага прыймання наркотыкаў — дваццаці з іх не было шаснаццаці год, аднаму — толькі дванаццаць год. У Н'ю-Йорку штодзень памірае ад наркотыкаў у сярэднім адзін малады чалавек.

Але не толькі наркотыкі навіслі чорнай хмарай над амерыканскім школьніцтвам. Шырыцца бандытызм, пабоі настаўнікаў, гвалты. У Сан-Францыска ў школах дзяжураць спецыяльна адкамандзіраваныя агенты службы бяспекі. Вучні маюць зброю, арганізоўваюць замахі на настаўнікаў. У некаторых школах урокі адбываюцца толькі ў прысутнасці паліцыянта. Паліцэйскія патрулі рэгулярна шпацыруюць па калідорах школ.

У Амерыцы зброю можа мець кожны, яе прадаюць як тавар — як цукеркі, як хлеб. На экранах амерыканскіх кінотэатраў няспынны паток фільмаў, у якіх усхваляецца бандыцкі стыль жыцця, бескарыснасць злачынстваў і т.п. Вайна ў В'етнаме, якую немагчыма апраўдаць ніякімі маральнымі рацыямі, ні палітычнымі нават рацыямі, спрыяе пашырэнню дэмаралізацыі асабліва сярод падатлівай на яе моладзі.

Амерыканскія кіруючыя колы сур'ёзна занепакоены сітуацыяй сярод моладзі ў сярэдніх школах. Ліхаманкава шукаюць прычын ўсяго гэтага. Тым часам, як слушна заўважыў каментатар друку, ...«тое, што амерыканская школа перажывае сёння такія вялікія цяжкасці, датычыць не столькі ўнутрышкольных спраў, колькі знешніх спраў, спраў больш агульнага значэння. Асноўная прычына таго, што перашкаджае сёння ў працэсе навучання, знаходзіцца ў грамадскіх праблемах Амерыкі».

Настаўнікі прабуюць вырашыць тое, што павінна вырашаць цэлая Амерыка, яе кіраўніцтва. (а-ся)

**БЕЛАРУСКАЯ МОДА.**



Шыкоўная сукенка з шаўковай тканіны для дзяўчынкі малодшага школьнага ўзросту. Фота В. Казлова.

**Па цяжкай дарозе да ведаў**

## ФІЛЬМ: „Я, Францішак Скарына"



Алег Янкоўскі ў ролі Францішка Скарыны.

Ёсць людзі, лёс якіх стаў неадлучнай часткай духоўнага жыцця ўсяе нацыі. Для беларусаў святым і высокапаважаным з'яўляецца імя Францішка Скарыны (1490—1541) — філосафа, мысліцеля, медыка, друкара. У далёкія суровыя часы нёс ён свайму народу святло ведаў.

Скарына быў адным з найбольш вучоных людзей свайго часу, сапраўдным сынам эпохі Адраджэння.

Вобраз гэтага чалавека натхняў пісьменнікаў, жывапісцаў, скульптараў. Пасправабавалі аб ім сказаць сваё слова і кінадакументалісты. У «Беларусьфільме» закончылася работа над мастацкім фільмам, прысвечаным вучонаму.

Гісторыя, на жаль, захавала скупыя факты з жыцця Скарыны. Фільмовая група ў час працы над фільмам прыязджала ў Польшчу, каб пазнаёміцца з месцамі, дзе праходзіла маладосць Скарыны. У Ягелонскай акадэміі ў Кракаве фарміраваліся прагрэсіўныя погляды і ідэалогія вучонага. Тут ён спаткаўся з Капернікам і адгэтуль пачалася яго шматгадовая вандроўка па Еўропе.

На дарозе Скарыны да ведаў стаялі вялікія перашкоды. Яго імкненні служыць свайму народу не знаходзілі падтрымкі.

Фільм «Я, Францішак Скарына» не поўнасцю біяграфічны. Але ж тое, што пра Скарыну ведаем, знайшло ў фільме сваё адлюстраванне: Ф. Скарына, сын купца з Полацка, стаў доктарам медыцыны. Гэтае высокае тады званне прызнаў яму адзін з найбольшых і найстарэйшых універсітэтаў — Падуанскі.

Ролю Скарыны выконвае малады акцёр Алег Янкоўскі. Яго каханую Маргарыту — Гунта Віркава.

У фільме мы развітваемся з Францішкам Скарыной у самыя цяжкія для яго дні. Адразу пасля шлюбу яго раздзяляюць з Маргарытай. Яе проста з касцёла вязуць у манастыр, а на плошчы ў Вільні публічна паляць кніжкі Скарыны, упершыню надрукаваныя на беларускай мове.

Раннім досвіткам Францішак пакідае горад. На пустой дарозе яго даганяюць сялянскія вазы. На адным з іх бачыць ён маладога хлапца, які па складам чытае яго кніжку. На змучаным твары Скарыны расцвітае добрая ўсмешка.

**С. Палякоў**
«Савецкі фільм»

**Чэрць стагоддзя назад**




Доўгачаканы дзень настаў 13 студзеня. Мы спусціліся ў хлеў і адчулі, як пад нагамі дрыжала і гула зямля.

Узбуджаны, прыбег да нас Шыллят, за ім «мутэр».

— Пачалося! — усклікнуў гаспадар.

18 студзеня ў дом Шыллята зайшоў салдат. Гэта быў яго надзейны «геносэ», так ён сам сказаў. Рота, у якой служыў гэты салдат, атрымала загад адступіць за раку Дайме. Шыллят прывёў салдата да нас у хлеў.

— Гэта парашутысты. Разведчыкі Чырвонай Арміі, — сказаў яму гаспадар. — Заставайся разам з намі — перачакаеш дзень-два. — І ўжо да нас: — Гумбінен і Інстэрбург ужо нашы.

Салдат, гадоў пад пяцьдзесят, у маскіровачным касцюме, прыставіў вінтоўку да сцяны, выняў пачак цыгарэт. Даўно не брыты, са стомленымі вачыма, ён агледзеўся, шукаючы, дзе можна было б прысесці.

— Можна было б застацца і ў цябе, Аўгуст, — нарэшце загаварыў ён. — Але я пайду за Дайме. Там жа — дом, сям'я... Паспрабую застацца там.

— Ты можаш што-небудзь сказаць разведчыкам? — спытаў гаспадар.

— Што сказаць? Армія нясе вялікія страты. У нашай роце ўцалела менш чым палавіна салдат. У артылерыстаў не хапае снарадаў, у танкістаў — гаручага. Армія пераможана, але яшчэ супраціўляецца.

— Вы можаце назваць нам сваю армію? — звярнуўся я да салдата.

— Хоць я лічу, што немцы прайгралі вайну, але гаварыць не хочацца, — салдат паглядзеў на нас з-пад ілба, патушыў цыгарэту.

Усталявалася няёмкае маўчанне.

— Што ж, цябе можна зразумець, Фрыц, — толькі цяпер назваў яго па імю Шыллят. — На гэтым ніхто не будзе настойваць.

— Адступае 26-ы армейскі корпус, — нечакана адказаў Фрыц. — Калі для вас гэта важна...

— Ён разбіты?

— Не ведаю. Ідуць цяжкія баі. Іх вядзе 3-яя танкавая армія. — Фрыц даў зразумець, што ён сказаў усё, што мог.

— Табе лепш застацца тут, — настойваў Шыллят.

— Я хачу хутчэй да сям'і. — Ён кіўнуў на развітанне і пайшоў да шашы, па якой ішлі адступаючыя гітлераўскія ваякі.

— Не варта так рызыкаваць, — кажу Шылляту, калі салдат пайшоў.

— Не хвалюйцеся. Ён сумленны немец. Я яму веру. Бачыце, як перажывае чалавек за сям'ю.

19 студзеня Гітлер выдаў загад аб знішчэнні ваенных, прамысловых і гаспадарчых аб'ектаў, сродкаў транспарту і іншых каштоўнасцей на тэрыторыі Усходняй Прусіі. Загадана было эвакуіравацца і Шыллятам. У гэтай мітусні ўжо ніхто не звяртаў увагі, што ён дэзерціраваў з фольксштурма.

— Нікуды я не паеду, — гаварыў ён нам. — Нацысты загадваюць абараняць кожны дом. Вось я, як фольксштурміст, і буду абараняць свой дом, — казаў ён не без іроніі, паказваючы на свой мундзір фольксштурміста.

20 студзеня фронт ужо быў каля вёскі Міншэнвальдэ. Чуваць была кулямётная стральба. «Мутэр» з нецярпеннем чакала, што вось-вось можа з'явіцца яе Ота. Вечарам 21 студзеня па шашы гітлераўцы адцягнулі ў лес артылерыйскі дывізіён. Прайшло дзесяць танкаў, пафарбаваных у белы колер. Следам хлынула пяхота. Сапёры ўзарвалі невялічкія масты, якія нам былі відаць.

Надыходзіла трывожная ноч.

— Пяройдзем у хату, — прапанаваў гаспадар. — Цяпер мы ўжо на нейтральнай паласе.

Мы таксама лічылі, што цяпер з усходу могуць паказацца толькі свае, і пакінулі сховішча.

Адна за другой уяўляліся карціны сустрэчы са сваімі. Пайшлі 175-я суткі з таго часу, як група «Джэк» прызямлілася ва Усходняй Прусіі. Мы радаваліся і хваляваліся. Было з чым сустрэць сваіх. Ноччу мы ўбачылі праз акно, як загарэлася некалькі хутароў. Полымя асвятляла снегавую раўніну. Спачатку чуць прыкметна, а затым усё больш акрэслена відаць былі постаці людзей, асветленыя пажарам. Салдаты ішлі, расцягнуўшыся ланцугом.

Затаіўшы дыханне, мы чакалі сваіх. Сваімі — нашых звалі і гаспадары. Вось ужо зусім блізка з вінтоўкамі і аўтаматамі ў руках, з ручнымі кулямётамі на плячах на фоне неба сталі відны сілуэты людзей. Нас раздзяляе метраў якіх дваццаць. Засталося пералезці лінію акопаў, што праходзіць побач з домам. Мы гатовы былі выскачыць насустрач. Але што гэта? Адзін салдат спыніўся і падняў руку:

— Займай акопы! — гаркнуў ён панямецку.

Гэта былі немцы.

— За мной... — шапнуў Шыллят.

Мы выскачылі ў сенцы і залезлі па драбінах на гарышча. У тэты момант пачуўся грукат у дзверы.

— Зараз адчыню, — азваўся Шыллят.

— Хто такія? — аклікнулі з двара. Шчоўкнулі затворы.

— Фольксштурман. Фольксштурміст, — адчыняючы дзверы, адказаў гаспадар. Ён паспеў ускінуць на сябе мундзір.

— Чаму не эвакуіраваліся? Бальшавікоў чакаеце? — злосна ахрыплым го-

